маскоўскім войскам пад Оршай: польска-літоўская армія налічвала ўсяго каля 30 тысяч чалавек, у тым ліку 3 тысячы палякаў, маскоўская ж армія — каля 80 тысяч. Але каб вярнуць Смаленск, князю К. Астрожскаму не хапіла вайсковых сіл. Падчас наступнай вайны, у 1534—1537 гг. літоўскім войскам удалося заняць Северскую зямлю і Гомель пры дапамозе польскіх войскаў пад камандаваннем гетмана Яна Тарноўскага. Аднак заключанае перамір'е не прынесла ніякіх істотных тэрытарыяльных змен» [2].

Здаецца, усё б нічога, але зноў складваецца ўражанне, што беларускі кантэкст з гісторыі супрацьстаяння Вялікага Княства Літоўсага і Маскоўскай дзяржавы выкінуты. Пры гэтым значная роля ў перамозе над усходнімі захопнікамі адводзіцца, зразумела, Польскаму каралеўству.

Чарговым выданнем, вартым увагі, з'яўляецца кніга Кшыштафа Яблонкі «Вялікія бітвы палякаў», якая выйшла ў 2007 годзе. Аўтар спыняецца на гісторыі 40 найбольш важных (па яго меркаванню) вайсковых падзей у гісторыі польскай дзяржавы. Значную ўвагу ў працы надаецца бітве пад Оршай, пры гэтым аўтар распавядае не толькі пра вайсковы бок падзеі, але і дае аналіз палітычнай падаплёкі чарговай вайны ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай [3]. Нажаль і тут замест канкрэтызацыі гістарычных тэрмінаў, выкарыстоўваецца безаблічнае паняцце «Літва», якое для слуха сучасных еўрапейцаў, у тым ліку і палякаў, мае канатацыю з сучаснай літоўскай дзяржавай. Пры гэтым Кшыштаў Яблонка ўсё ж узгадвае «аб'яднанне Літвы і Беларусі». Да таго ж, распавядаючы пра вайсковы бок супрацьстаяння ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы, даследчык выкарыстоўвае паняцце «літоўска-беларускае войска», а таксама «сейм Вялікага Княства Літоўскага». У артыкуле адзначаецца, што ў 1514 годзе пад Оршай адбылася трэцяя (!) бітва войска ВКЛ і маскавітамі (да гэтага ля Оршы літвінам прыйшлося змагацца з «маскалямі» у 1508 і 1513 гг.). У высновах аўтар адзначае, што ўвогуле кампанія была неўдалай для «дзяржавы Ягелонаў».

У 2009 годзе ў Варшаве ўбачыла свет калектыўная праца «Перамогі польскай зброі», у якой змешчаны артыкул Томаша Багуна «Бітва пад Оршай». Аўтар дае падрабязны аназіз знешнепалітычнай сітуацыі Вялікага Княства Літоўскага (менавіта так, а не «Літвы»), апісвае сілы бакоў, і, асабліва падрабязна, іх узбраенне [4]. У высновах даследчык адзначае вайсковы талент палкаводца ВКЛ Канстанціна Астрожскага і падкрэслівае, што перамога ў 1514 годзе пад Оршай здабыта, у значнай ступені, з-за вайсковага генія гэтага чалавека.

Вясной 2014 года ў знакамітым польскім выдаўніцтве «Беллона» быў выдадзены першы том серыі «Пераможныя бітвы палякаў». У прадмове да кнігі, у прыватнасці адзначаецца:

«У гэтай серыі кніг, якая складаецца з 40 тамоў, мы стараемся ўспомніць тыя падзеі, якімі мы можам ганарыцца. [...] Часта гэта былі перамогі, атры-

маныя ў войнах, якія заканчваліся для нас паразай, таму што мы альбо не змаглі скарыстацца з гэтых перамог, альбо вораг валодаў перавагай. Вайсковае мастацтва военачальнікаў і вайсковая вартасць жаўнераў, а таксама патрыятычны настрой не раз дазвалялі дасягнуць поспеху ў умовах, якія гэтаму не спрыялі. Гэтыя поспехі засталіся ў перадаваемай з пакалення ў пакаленне легендзе» [5].

У рамках гэтай серыі на студзень 2015 года запланавана выданне асобнага тому (№ 26), прысвечанага менавіта гісторыі Бітвы пад Оршай. Улічваючы, як добра падрыхтаваны ўжо выйшаўшыя ў свет кнігі серыі, можна спадзявацца, што і гісторыя Аршанскай перамогі, негледзячы на «польскія» акцэнты будзе ўяўляць з сябе цікавае і карыснае выданне.

Асобна варта спыніцца на аналізе некаторых польскіх публікацый, што з'явіліся ў інтэрнэце. З пачатку варта ўзгадаць дыскусію, якая ўзнікла на сайце historycy.org у 2005—2006 гг., падчас якой карыстальнікі шукалі адказу на пытанне: «Чаму палякі не змаглі скарыстацца з перамогі пад Оршай?» Усмех выклікаюць выказванні кшталту «палякі пад камандаваннем Астрожскага» ці «вялікія страты не спынілі рускіх» [6]. Дадзеная форумная дыскусія з'яўляецца яскравым адлюстраваннем тых стэрыятыпаў, якія існуюць у польскім грамадстве ў дачыненні да дадзенага аспекта нашай агульнай гісторыі. Разам з тым, удзельнікі абмеркавання прааналізавалі колькасць войск, якія з розных бакоў удзельнічалі ў бітве.

У 2009 годзе Польшча і ўвесь свет адзначалі 70 год з моманту пачатку Другой Сусветнай вайны. У гэтым кантэксце ў газеце «Dobry znak» абмяркоўваліся супярэчлівыя моманты агульнай польска-расійскай гісторыі. Асобнае месца было адведзена і абмеркаванню падзей «польскай» перамогі пад Оршай. Аднак падзеі сярэднявечча ў асноўным былі выкарыстаны як фон для ілюстрацыі аспектаў гісторыі Польшчы XX стагоддзя [7]. У такім жа рэчышчы праходзіла дыскусія і на сайце fronda.pl, удзельнікі якой вельмі хутка з абмеркавання падзей 1514 года перайшлі на больш блізкія падзеі 1939 года, праводзячы паралель са спробай Габсбургаў падтрымаць Маскву ў XVI ст. і пактам Молатава-Рыбентропа XX ст. [8]

У 2011 годзе журналіст часопіса «Polska Zbrojna» Ежы Бесала таксама звярнуўся да разгляду гісторыі «аршанскіх падзей». Акрамя аналізу геапалітычнай сітуацыі напярэдадні бітвы, аўтар значную ўвагу надаваў характарыстыцы новых відаў узбраення і інжынерных сродкаў, выкарыстаных «войскам Ягелонаў» пад Оршай [9].

У гэтым юбілейным годзе ў польскіх інтэрнэт-выданнях таксама публікуецца шмат артыкулаў, прысвечаных гісторыі Аршанскай перамогі. Так, варта ўзгадаць публікацыю сайта obserwatorpolityczny.pl, у якой аналізуецца тое, як гісторыя бітвы пад Оршай успрымаецца ў Беларусі. Аўтар падкрэслівае, што пасля атрымання нашай краінай незалежнасці ў 1991 годзе перамога

1514 года стала сваістым сімвалам беларускай вайсковай славы. Па меркаванню публіцыста ў інтарэсах Польшчы з'яўляецца падтрымка гэтых тэндэнцый у беларускім грамадстве. Пры гэтым вялікую выхаваўчую ролю мог бы адыграць сумесны беларуска-польскі кіна-праект, распавядаючы пра гісторыю сумеснай перамогі над маскоўскім войскам 500 гадоў таму [10].

Падсумоўваючы, варта падкрэсліць, што ў большасці сучасных польскіх навукова-папулярных гістарычных выданняў падкрэсліваецца рашучая роля Польшчы ў перамоге пад Оршай у 1514 годзе. Разам з тым ахарактарызаваныя вышэй кнігі і артыкулы дазваляюць сцвярждаць, што польскімі гісторыкамі і публіцыстамі зроблена вялікая праца па пулярызацыі гэтага аспекта гісторыі. Беларускім даследчыкам варта браць прыклад з калег з суседняй краіны дзеля таго, каб рабіць беларускую гісторыю (у тым ліку падзеі верасня 1514 года) не толькі зразумелай, але і прывабнай для нашага грамадства.

*СПАСЫЛКІ:*


1. Polska. Dzieje cywilizacji i narodu. Monarchia Jagiellonów 1399—1586. Warszawa-Wrocław, 2003.
2. Нарыс гісторыі Польскай Дзяржавы і Народа X — XXI ст. Варшава, 2007.
3. Jabłonka K. Wilekie bitwy Polaków. 40 potyczek, batalii i kampanii decydujących o losach Polski. Warszawa, 2007.
4. Bohun T. Bitwa pod Orszą [w:] Zwycięstwa oręża polskiego. Warszwa, 2009.
5. Kienzler I. Zwycięskie bitwy Polaków. Tom 1. Warszawa, 2014.
6. historycy.org.
7. gazeta-dobryznak.pl.
8. fronda.pl.
9. wiadomosci.onet.pl
10. obserwatorpolityczny.pl


*КОРОТКО ОБ АВТОРЕ*


Игорь Мельников (1980 г.р.) — кандидат исторических наук, магистр политологии Варшавского университета. Автор более 100 научных и публицистических статей и материалов в отечественных и зарубежных изданиях.

Родился в Бобруйске, потом семья переехала в Минск. Окончил Белорусский государственный педуниверситет им. М. Танка (специальность «история и иностранные языки»), магистратуру Варшавского университета. В настоящее является редактором интернет-портала «Историческая правда», а также преподавателем в Варшавском университете.

# БІТВА НА РОСТАНЯХ ЦЫВІЛІЗАЦЫЙ...

*Язэп Паўловіч,*
*гісторык (Нямеччына)*

«...Дзяржава абапіраецца больш на мужнасць духу, чым на сілу цела, пра што сведчаць як грэкі, так і рымляне. Іх магутнасць квітнела найбольш тады, калі расцьвіталі навукі. А як толькі пачыналі нікнуць таленты, сілы іх згаслі, а з заняпадам апошніх абрушылася іх дзяржава і ўсталявалася рабства. Таксама і ў нас...»

*Мікола з Гусава,*
*з ліста да найяснейшай уладаркі і пані Боны (Сфорцы д'Арагона),*
*з ласкі Божай каралевы Польшчы,*
*Вялікай княгіні Літвы, Русі, Прусіі і інш. пані.*

Здаецца, зусім нядаўна адзначалі мы шасцісотгодзе Грунвальдскай бітвы, а зарас надышоў час паўтысячагодовага юбілею бітвы пад Воршаю.

Іх аб'ядноўвае не толькі блізасць юбілеяў у часе. Але і тое, што абедзьве гэтыя бітвы спынілі вонкавую экспансію войскаў суседзяў на тэрыторыю карэнных земляў Вялікага Княства Літоўскага. «Грунвальд» вынішчыў захопніцкі імпэт крыжацкіх ордэнаў у дачыненні да ВКЛ і, ў рэшце рэшт, спрыяў далейшаму яго ўлучэнню ў эўрапейскія справы.

Перамога ж у Аршанскай бітве 8-га верасня 1514 году спыніла ўварванне войскаў Вялікага Княства Маскоўскага і дазволіла вызваліць частку ўсходніх тэрыторый ВКЛ (хоць вайна, якую абвясціў Васіль III, трывала яшчэ да 1522 года і адбылася страта Смаленску). Гэтая перамога стала моцным аргумэнтам у перманентнай спрэчцы ВКЛ і ВКМ за прастору і рэсурсы, мела магутныя палітычныя наступствы і спрыяла ўзмацненню сталых стасункаў з эўрапейскімі ўладнымі і духоўнымі цэнтрамі, ўпляценню культурніцкага жыцця Вялікага Княства ў эўрапейскі кантэкст. Без гэтай супрацы магчыма і не было б Рэнесанснага перыяду ў гісторыі нашай краіны.

Паміж Грунвальдам і Воршай пралегла не проста больш за сто год, гэта быў час сталага дзяржаўнага будаўніцтва і ўзмацнення ВКЛ, нягледзячы на частыя ваенныя канфлікты. Мянялася структура дзяржавы, развіваліся гарады і атрымлівалі прывілеі Магдэбургскага права.

Развівалася сістэма міжсаслоўных суадносін. Пашыраліся правы шляхты — ваеннага саслоўя. У ВКЛ XIV—XV стагодзяў нашчадкі ханаў і вышэйшых феадалаў з Залатой Арды, а пазней і Крымскага ханства, як і прадстаўнікі былых літоўскіх уладальніцкіх сем'яў, тытулаваныя выхадцы з Маскоўскага, Цвярского і іншых княстваў, прыналежылі да вышэйшай групы феадальнага шляхецкага стану. На самым версе гэтай групы былі прадстаўнікі велікакняскай дынастыі Гедымінавічаў.

З даволі простых паняццяў радавых і спадчынных суадносінаў «ваеннай дэмакратыі» пачала выбудоўвацца сістэма дэмакратыі саслоўнай, замацаваная ўпершыню ў «протастатуце» — Судзебніку Казіміра 1468 года, падставовым дакумэнце феадальнага права ВКЛ. Ён паслужыў прататыпам больш універсальнага прававога дакумэнта — першай рэдакцыі Статуту ВКЛ ад 1529 году, што быў падмуркам развіцця прававой сістэмы дзяржавы. Гэты дакумэнт і яго пазнейшыя рэдакцыі ў сваю чаргу аказалі ўплыў не толькі на развіццё эўрапейскай прававой сістэмы, але і, значна пазней, знайшлі пэўнае адлюстраваньне ў Канстытуцыі ЗША.

Сутыкненне «цывілізацыйных хваляў» разам з рассяленнем Чалавека па планеце пасля XIII веку і ўсталяваннем глабальных сувязяў, падзелу жыццёвай прасторы паміж народамі, стварыла магчымасць узнікнення шэрагу «цэнтраў палітычнай сілы» да пачатку XVI стагодзя на эўрапейскім абшары, што канкуравалі паміж сабою. Насельніцтва Зямлі на той момант перасягнула рысу ў паўмільярда чалавек. Упершыню ўзнікла сістэма больш-менш сталых межаў, пазначаных інжынернымі збудаваннямі пад аховай, паміж большасцю краінаў «Старога свету», што была замацавана не толькі ваеннаю моцай і дзвухбаковымі дамоўленасцямі, але і сістэмаю міжнародных Угодаў.

У міждзяржаўнай канкурэнцыі значна вырасла роля агульнага развіцця прамысловай вытворчасці краіны і ўзроўня арганізацыі працы, валодання новымі тэхналёгіямі вытворчасці і арганізацыіі інфармацыйнага забяспячэння функцыянавання дзяржаўнага апарату, эфектыўнасці дзяржаўнай машыны. Менавіта валоданне «піянернай» на той час інфармацыяй, новымі тэхналёгіямі на тле ідэйнай базы хрысціянскай цывілізацыі і асабліва нараджаючагася пратэстантызму, дазволіў імкліва вырвацца ў XVI стагоддзі ў канкурэнтнай барацьбе паміж эўрапейскімі краінамі Англіі і Галяндыі. Пачаўся падзел глабальнай геаграфічнай прасторы паміж імі. Эўрапейская цывілізацыя стала дамінаваць на нашай планэце.

Развіццё ж грамадства, рост гарадоў і павялічэнне насельніцтва у Вялікім Княстве Літоўскім спрычыніліся да вялікага попыту на кнігі, збольшага літургічныя. Тут нельга не ўспомніць бізнес-праект вядомага тады польскага магната Яна Турзо, які прапанаваў немцу Швайпафальду Фіелю, шаўцу, што выбраляў багаслужбовае адзенне ў Кракаве для Касцёла, друкаваць царкоўныя кнігі кірылічным шрыфтам для патрэбаў ва усходніх цэрквах на дзяржаўнай мове ВКЛ для падтрымкі там Хрысціянства. У 1491 годзе выйшлі дзве першыя кніжкі «Антоіх» і «Часаслоў». Наступныя некалькі выданняў — у 1492 і 1493 гадох. Па даносу ён быў падазроны ў «гусіцкай ерасі», прыцягнуты да следчых дзеяў і пэўны час правёў у турме. Але абыйшлося, і ў пачатку XVI стагодздзя ён працаваў ужо горным майстрам у Сілезіі і ніколі да друкарскай справы больш не вяртаўся.

Пятнаццатае стагоддзе скончылася Гарадзельскаю вуніяй паміж Польскім каралеўствам і Вялікім Княствам Літоўскім. Дамоваю, што павінна была

дапамагчы Польшы ў супроцстаянні не толькі з заходнімі суседзямі, але і турэцкай агрэсіі. Для Вялікага Княства ж асноўнаю праблемаю сталася супроцьстаянне з набраўшым моц княствам Маскоўскім і саюзнымі яму тады крымскімі татарамі.

Гістарычны лёс так склаўся, што нашая першая дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае паўстала на памежжы, на сутыкненні цывілізацыйных хваляў з Захаду і Усходу, што неслі свае культурніцкія і тэхналагічныя адметнасці, розныя, часам супроцлеглыя погляды на рэчы і пабудову Свету. Заходнюю хвалю культурніцкага ціску ініцыяваў кансалідаваны адказ эўрапейскіх краінаў на мусульманскую агрэсію ў Гішпаніі і Партугаліі ў апошняя траціне першага тысячагодздзя н.э. Ядром гэтай хвалі можна лічыць імпэрыю Карла Вялікага. Праз Крыжовыя паходы і Рэканкісту, пасля паразы на Бліжнім Усходзе, вайсковая машына Ордэнаў абрынулася на «паганскія» абшары Прусіі, Прыбалтыкі і саюзнай для ВКЛ Польшы. Гэтыя наступствы «памылкі Конрада Мазавецкага», які запрасіў іх, былі больш актуальныя для палякаў, чымся для Вялікага Княсства — падзеі добра вядомыя шырокай публіцы з гістарычных крыніцаў і літаратуры.

Без разгляду ж сутнасці супроцьлеглага вектару — хвалі Усходняй, што ўяўляла сабою націск імпэрыі намадаў Чынгіз-хана, мы не ў стане ацаніць значэнне бітвы пад Воршаю, бо без гэтага цяжка зразумець узыходжанне і сутнасць Маскоўскай дзяржавы, таму гэтае пытанне трэба разгледзець больш дэталёва.

* * *

На пачатак XVI стагоддзя тры цывілізацыйныя хвалі (“Усходняя», «Заходняя» і «Паўднёвая» — мусульманская), што спрыялі станаўленню ВКЛ, з падзеннем Бізантыйскай імпэрыі, распадам Вялікай Арды і ісламізацыяй гэтага рэгіёна, трансфармаваліся ў добра ўжо знаёмае нам бінарнае супроцьстаянне хрысціянскага і мусульманскага светаў, альбо звыклую для нас дыхатомію «Ўсход — Захад».

Ўся гісторыя так званага «Ардынскага іга на Русі» ўкладаецца ў два с паловаю стагоддзі ад першага «знаёмства» з Чынгіз-ханам ў 1223 годзе — бітвы на Калцы — калі руска-палавецкае войска было ўшчэнт разбіта войскамі намадаў. Ў сур'ёз жа ўсё пачалося пазней у сталіцы Манголіі — Каракаруме: ў 1235 годзе на курултаі прымаецца рашэнне аб Вялікім Заходнім паходзе. У 1237 годзе войскі Чынгіз-хана пераходзяць Волгу і захопліваюць шэраг тэрыторый — Разань, Каломну, Маскву, Уладзімір і Суздаль, Кастраму і Яраслаўль, Вугліч. У 1240 годзе імі ўзяты ўжо Кіеў. Адбывалася рэалізацыя ідэі Чынгіз-хана — стварыць адзіную татара-мангольскую дзяржаву ад кітайскіх мораў на ўсходзе да мора Франкаў на Захадзе. Але намады дайшлі толькі да Удзіны, гарадка непадалёк ад Вянецыі.

Узнікшая ў выніку Вялікага Заходняга паходу 1235—1241 гадоў на захопленых абшарах дзяржаўнае ўтварэнне, Улус Джутчы (сына Чынгіз-хана),

займала агромістую прастору ад Іртыша і Алтая на Усходзе да Дунаю на Захадзе і ад Волскага Булгару на Поўначы да Каўказу на Поўдні.

Пасля смерці Чынгіз-хана і Джутчы ўлада перайшла да іншага сына — Батыя. У 1242 годзе ён стварыў на тэрыторыі Улуса Джутчы новую дзяржаву — Залатую Арду і заснаваў яе новую сталіцу — Сарай, што неўзабаве налічвала ўжо да 75 тысяч насельнікаў.

Першапачаткова Залатая Арда дзялілася на дзве часткі: яе заходняя частка называлася Ак (Белая) Арда, а ўсходняя — Кок (Сіняя) Арда.

Ужо ў канцы XIII стагоддзя на абшарах Залатой Арды пачало распаўсюджвацца мусульманства. Вельмі значным крокам да поўнай ісламізацыі гэтай краіны быў прыход да ўлады Берке-хана (1256—1266), які прыклаў значныя высілкі для прыняцця Іслама ў якасці дзяржаўнай рэлігіі.

Гледзячы па ўсім, вырашальную ролю ў гэтым адыграла неабходнасць вонкавай падтрымкі ў барацьбе Залатой Арды за незалежнасць ад улады «вялікага кагана» — валадара Каракарума (на той час — Мунке-хана). Неўзабаве, прыкладна ў 1260 годзе, Арда спыніла выплату падаткаў ў Каракарум.

Амаль у той жа час, каля 1258 года, перастаў існаваць Багдацкі Халіфат. Таму гістарычная сітуацыя спрыяла стварэнню саюза Берке-хана з Эгіптам (як раз пасля рэвалюцыі тамтэйшых рабоў-мамлюкаў 1250 году), наймацнейшаю і найбуйнейшаю мусульманскаю краінаю. Падбівала на гэткі хаўрус і тое, што першым султанам «з рабоў» становіцца полавец Мустафа Кутуз. Да таго ж сярод мамлюкаў было многа выхадцаў з Каўказу, Поволжжа і прыкаспійскіх стэпаў. Сталіца яго, Каір, што існаваў ужо амаль 300 год, быў сталым духоўным цэнтрам тагачаснага муслімскага свету. Там жа перабываў нашчадак апошняга Халіфа.

Канчаткова ж Залатая Арда была прымусова ісламізаваная ханам Узбекам (1312—1314) на падставовых прынцыпах «меча Мхадзі» — Джыхада.

Пасля забойства хана Джанібека ў 1357 годзе і паразы паўднёвых ханаў у Бітве на Сініх Водах у 1362 годзе ад войскаў пад началам Альгерда, ў Залатой Ардзе пачаўся перыяд унутраных войнаў і феадальнай раздробленасці. ВКЛ жа становіцца найвялікшаю дзяржаваю ў Эўропе.

У наступных падзеях, ад 1370 году, вырашальную ролю гулялі эмір Цімур і хан Тохтамыш, што перабег да яго з Белай Арды. Іх саюз, а потым барацьба паміж сабою, значна аслабілі стан ардынцаў, што дазволіла набраць сілу славянскім княствам, якія ўваходзілі ў склад Арды і знаходзіліся ў вассальнай ад яе залежнасці, уключна з княствам Маскоўскім. Прынамсі сталі магчымамі першыя крокі Масквы да наступнай велічы. Смерць Цімура ў 1405 годзе спыніла яго заваёўныя паходы і вонкавы націск на парэшткі Улуса Джучы. Княства Маскоўскае акрэпла і пачало ўзбуйняцца, паглынаючы суседнія дзяржавы.

Іслам значна паўплываў на культуру насельніцтва Залатой Арды. Разам з арабскаю моваю рытуала, ўсё большы распаўсюд меў і звычай упрыгожвання

арабскімі матывамі і пісьмёнамі рэчаў пабытовага ўжытку, зброі і строяў. На землях Кіеўскай Русі, ўлучаных у Залатую Арду, таксама не магла не адбіцца як ісламізацыя цэнтральнай ардынскай улады, так і татальная арабізацыя, што непазбежна нёс з сабою Іслам. Вельмі паказальным ў гэтым сэнсе ёсць «Хождение за три моря» — дзённік цвярскога купца Афанасія Нікіціна, што ў 1468—1475 гг. зрабіў падарожжа ў Індыю і памёр па дарозе назад, не дайшоўшы да Смаленску.

Расейскія даследчыкі сцвярджаюць, што цюркізмы і арабізмы ў тых запісках ён ўжываў свядома, каб прыхаваць «нязручную» інфармацыю. Але што можна было прыхоўваць, напрыклад у завяршальнай малітве тых запісак, якая нічога акрамя звароту да Ісуса ў арабскай форме «Іса» і яго эпітэтаў не ўтрымлівае? Заўважна таксама, што на гэтай ўсходняй «трасянцы» запісаны амаль выключна звароты да Бога — малітвы. Мяркую, ў гэтым дзённіку як раз захаваліся ўзоры пабытовай мовы рытуалу, г.зн. тагачаснай формы малення да «Адзінага бога» і па ім можна вызначыць узровень культурнага ўплыву Арды і Ісламу на славянскія княствы ў яе складзе і на памежжы з ёй, у апошняй траціне XV стагоддзя. Вось маленькі ўрывак з той завяршальнай малітвы:

«Милостию Божиею преидох же три моря. Дигерь худо доно, олло перводигерь дано. Аминь! Смилна рахмам рагим. Олло акьбирь, акши худо, илелло акшь ходо. Иса рухоало, аликъсолом. Олло акьберь» і г.д.

(Пераклад на сучасную расейскую мову:

«...Милостию Божией прошел я три моря. Остальное Бог знает, Бог покровитель ведает. Аминь! Во имя Господа милостивого, милосердного. Господь велик, Боже благой, Господи благой. Иисус дух Божий, мир тебе. Бог велик...)»

Праз пэўны час, у 1485 годзе — Цвярскія землі будуць пазбаўленыя вольнасцей і ўлучаныя ў княства Маскоўскае. Князь жа цвярскі, Міхал Барысавіч, уцячэ ў ВКЛ.

Пазней Маскоўскае княства ўвайшло ў хаўрус з ханствам Казанскім і пачалася доўгая палітычная «гульня ўтрох» з Вялікаю Ардою, зрэшты, саюзнай ВКЛ. Звычайна вехаю выхаду княства Маскоўскага на лідэрскія пазіцыі на заходніх абшарах былога Улусу Джутчы лічыцца дата «Вялікага стаяння на Вугры» — 1480 год. Канчаткова ж Вялікая Арда была разгромленая ў вайне 1501—1502 гадоў.

Вырашальным момантам той вайны княства Маскоўскага за поўную незалежнасць стала бітва на Суле, дзе яно мела таксама войскі ад саюзнікаў — Казанскага і Крымскага ханаў. Але яшчэ ў 1482 годзе адбылося пасольства Масквы ў Крым, дзе была зробленая Угода аб сумесных дзеях супроць Вялікага Княства Літоўскага.

Такім чынам, ў канцы XV веку Вялікае Княства Маскоўскае абсарбуе ў сабе рэсурсы, вайсковую сілу, ідэі і тэхналёгіі Чынгізідаў Залатой Арды. Як раз інтэграцыя гэтага агромністага патэнцыялу і дазволіла «Маскве» ў далейшым паспяхова канкураваць з ВКЛ.

Такі стан рэчаў пацвярджаецца і запіскамі сучаснікаў. Напрыклад, у сваім трактаце «Масковія» (1682 г.) выбітны ангельскі пісьменнік і гісторык Джон Мільтан сцвярджаў, што Вялікае княства Маскоўскае стала вядомае Эўропе як магутная дзяржава з часоў Івана III. Кароль польскі Казімір IV таксама пісаў аб ім наступным чынам: «правадыр слаўны многімі перамогамі, што мае вопытных палкаводцаў сярод перайшоўшых на яго бок татарскіх мурз».

На значную ролю татараў у маскоўскім войску тых часоў указвалі таксама французскія гісторыяграфы канца XIV веку — браты Мартэс.

І як раз у год Аршанскай бітвы, вялікі князь Маскоўскі, Васіль III (правіў у 1503—1533 гг., бацька Івана Жахлівага), упершыню быў названы тытулам «цар» («цэсар») у тэксце дамовы з Імпэратарам Свяшчэннай Рымскай Імпэрыі.

* * *

У святле вышэйпералічанага не цяжка зразумець, што вынік вайны першай чвэрці XVI веку паміж двума канкуруючымі княствамі — ВКЛ і ВКМ — быў крытычна важны. Можна спрачацца аб «тэрытарыяльных заваёвах» той вайны, але наступствы перамогі ў бітве пад Воршаю для будучыні ВКЛ цяжка пераацаніць. На той момант яна, як мінімум, вырашыла цывілізацыйны выбар паміж «агнасцытычным Усходам» і «эўрапейскім прагматычным спасціжэннем Сусвету», што стварыла магчымасць «Залатога веку» ў нашай краіне. Тым больш, што як раз у той час у Францыі пачала ўжо займацца эпоха Рэнесансу, што проста не дайшла б да нас ў выпадку паразы, як гэта сталася з Масковіяй.

Слава ж гэтай перамогі акрыліла ваяроў Княства і стала крыніцаю натхнення для народнай творчасці, што апявала яе. Гэта спрыяла кансалідацыі тагачаснага грамадства, станаўленню пэўнага вобразу Краіны ў вачох як яе насельнікаў, так і эўрапейскага грамадства як моцнай, аўтарытэтнай і вялікай Дзяржавы.

Цяжка ацэньваць адгалосак такіх падзей у людскіх душах. Але хто ведае, каб не перамога 1514 года, ці змог бы выдаць у 1517 годзе сваю першую кнігу Францішак Скарына і калі б тое адбылося? Але, ўпэўнены, дакладна мы б не мелі літаратурнага ўвасаблення вобразу Вялікага Княства — паэмы Мікалая Гусоўскага. Ён напісаў сваю «Песню пра зубра (бізона)» калі быў пісцом ў складзе пасольства 1518 года у Італію да Папы Ільва X Медычы, каб схіліць яго да стварэння кааліцыі хрысціянскіх дзяржаваў. На жаль той памёр ад халеры, як і кіраўнік гэтага пасольства, Эразм Вітэліус, біскуп Плоцкі. Таму выдаць паэму атрымалася толькі ў 1523 годзе, пасля заканчэння вайны, з дапамогаю каралевы Боны.

Мікола з Гусава, паэт-«навалацініст», дае не толькі рэльефны вобраз ліцьвінскага нацыянальнага ваярскага характэру, але дакладна апавядае пра народ і Краіну, таксама як і стан, у якім яны апынуліся на той момант, праз апісанне палявання на ляснога волата-зубра:

*«... Я пачынаю з адзіным намерам: унесьці*
*Толькі свае ўдакладненьні пра нашага зьвера,*

.....................................................................

*Хай ён бадне ў мой радок, каб маглі мы разгледзець*
*Гэтае дзіва з абшараў Літоўскага княства,*

.....................................................................

*Лад альпабэту наш прашчур для ўласнай карысьці*
*Ў грэкаў пазычыў і, гукі мясцовых гаворак*
*Зладзіўшы зь ім, іншаземцам, застаўся сабою.*

...................................................................

*Край наш — дзівосны прыстанак загадак і цудаў:*
*Ці то так Бог пажадаў, каб усё ў ім на волі*
*І вырастала, і гінула, ці чараўнічай*
*Воляю нечай усё занядбана — не знаю...*

...........................................................

*Войны вядзём мы адзін на адзін за сьвяшчэнны*
*Братні саюз хрысьціянства з навалай з усходу...*

.............................................................

*Што запяяш ты, сусед наш, калі скалануцца*
*Плачам і стогнам твае гарады і мястэчкі?*
*Локаць гатоў будзеш свой укусіць у адчаі:*
*Дзеж я раней быў, чаго я глядзеў і прагледзеў?*
*Як я сваім патураньнем расчысьціў дарогу*
*Ордам чужынцаў», што разам з ваенным рыштункам*
*Ёрмы прывезлі суседзям і мне — па суседску?*

...............................................................

*Колькі ня жалься, ні войкай, а чэмеру гора*
*Не падсалодзіш жальбою. Як лес безгалосы,*
*Мы пад сякерай, дык хай жа пачуецца ў сьвеце*
*Гусаўца голас між волатаў нашых пушчанскіх...»*

*(Мікола Гусоўскі. «Песня пра зубра» //*
*Зборнік «Старажытная беларуская літаратура». Мінск, 1990, с. 119—154)*

Ёсць яшчэ адно «тое», што збліжае лёс гэтай паэмы і гістарычнай памяці аб перамозе ў бітве пад Воршаю — да сярэдзіны 60-х гадоў XX стагодзя аб іх існаванні ведала толькі невялікае кола спецыялістаў, бо яны не ўпісваліся ў кандовыя савецкія ідэалагемы аб «слявянскім адзінстве», «трыадзіным на-

родзе» і «вядучай ролі народа рускага». Перакладу ж паэмы на нашую мову, пры наяўнасці шэрагу іншых, проста не існавала. Дапамаглі «хрушчоўская адліга» і пазбаўленне грамадства ад бальшавіцка-сталінскага маразму.

Парадаксальным чынам падзеі сучаснасці, а менавіта агрэсія Расеі супроць Украіны і сённяшнія спробы мусульманскіх экстрэмістаў аднавіць Арабскі Халіфат, актуалізуюць гістарычны вопыт Аршанскай Перамогі.




*КОРАТКА ПРА АЎТАРА*

Язэп Паўловіч — былы жыхар Менска. Зараз жыве ў горадзе Зіген (Siegen), з'яўляецца старшынёй Згуртавання беларусаў у Нямеччыне. Аўтар шэрагу артыкулаў па сусветнай і беларускай гісторыі

# ХІСТКІ ГРУНТ ГІСТАРЫЧНАЙ СВЯДОМАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

*Ірына Шумская,*
*культуролаг*

Адзін з найбольш вядомых парадоксаў логікі, аўтарства якога належыць Гегелю, сцвярджае: «Гісторыя навучае толькі таму, што яна ніколі так і не навучыла чаму-небудзь народы». Гэта ў поўнай меры мае дачыненне і да беларусаў, якія ў працяглым і пакуль не завершаным працэсе станаўлення нацыі вучацца вельмі марудна, без асаблівай ахвоты, а часам і наогул ігнаруючы разнастайныя прыклады з уласнай гісторыі. Толькі вырваліся з кіпцюроў Расійскай імперыі — і адразу ж захраслі ў таталітарнай дрыгве Савецкага Саюза; не паспелі як след ачомацца ад нечаканага шчасця ў выглядзе здабыцця незалежнасці — і галава ўжо пнецца ў хамут ЕўраАзЭС. Але больш за ўсё выклікае здзіўленне тое, што замест неабходнага пераасэнсавання гістарычных працэсаў, якое цяжка было б патрабаваць ад простых грамадзян, рэакцыя палітычных эліт амаль нічым не адрозніваецца ад рэакцыі плебса і зводзіцца да ўпадабанай тактыкі: «А можа, так і трэба?»

Кволасць гістарычнага мыслення беларусаў ускладняе працэс ягонага аналізу ў межах існуючых сістэм класіфікацыі. Так, напрыклад, расійскі даследчык А. Медбрайер вылучае шэраг тыпаў гістарычнага мыслення, сярод якіх, у прыватнасці, наступныя:

- селектыўнае мысленне, якое дазваляе ў пэўны момант адсунуць убок непатрэбнае і здзейсніць правільны гістарычны выбар;
- інавацыйнае мысленне, здольнае прапанаваць варыянты гістарычнага выбару для «прарыву» ў новую сацыякультурную сітуацыю;
- сталкерскае мысленне, што падштурхоўвае да мужнага руху па новым шляху, як па мінным полі, і г.д.

Паводле дадзенай тыпалогіі, гістарычнае мысленне беларусаў можна аднесці да так званага «рэверсіўнага», якое прапануе соцыўму неаднаразова «наступаць на адны і тыя ж граблі», каб канчаткова пераканаць у бесперспектыўнасці вырашэння новых праблем пра дапамозе старых сродкаў.

Асаблівасці гістарычнага мыслення наўпрост ўздзейнічаюць не толькі на фарміраванне гістарычнай свядомасці і трываласць гістарычнай памяці народа, але і на гістарычны выбар, які ім здзяйсняецца. І тут можна ўгледзець пэўную аналогію з тэзісам французскага культуролага К. Леві-Строса, які падзяляў грамадства на «халодныя» і «гарачыя». Для першых уласціва «нулявая чуллівасць да гістарычнага развіцця», шанаванне стабільнасці і добраўпарадкаванасці сацыяльных стасункаў, у той час як у другіх «унутраная тэмпература няспынна змяняецца», а гісторыя становіцца чымсьці кшталту рухавіка развіцця.

Адказнасць за фарміраванне гістарычнай свядомасці той ці іншай нацыі варта ўскладаць не толькі і не столькі на прафесійных гісторыкаў, скольні на пасіянарную частку грамадства, а таксама на тых асоб, якія вызначаюць кірунак культурнай палітыкі ў дзяржаве.

Калі абывацеля хвалюе пытанне асвятлення ва ўласным жытле, ён наўрад ці самастойна будзе паглыбляцца ў схемы электраправодкі, даручыўшы гэтую справу спецыялістам. Гэтак жа і гістарычная памяць (існаванне абсалютнай аб'ектыўнасці ў якой наогул можна паставіць пад вялікі сумнеў, бо кожны з аўтараў гістарычных канцэпцый так ці іначай дзейнічае ў межах пэўнага ідэалагічнага ракурсу) — закліканая выступаць інструментам мацавання нацыянальнай свядомасці. Яна (памяць) рэдка засяроджваецца на дэталях, аддаючы перавагу разуменню агульнай карціны падзей мінуўшчыны. Апошняя, у сваю чаргу, малюецца фарбамі, змешчанымі ў палітры, створанай дзяржаўнымі інстытутамі разам з грамадзянскай супольнасцю.

Значна ўплывае на дзейсную сітуацыю і тое, што мноства гісторыкаў насамрэч стварае не столькі летапіс сапраўдных падзей, колькі калянавуковае фэнтэзі. Напрыклад, апалагеты лозунга «Расія, Украіна, Беларусь — усё гэта Святая Русь» часта ў якасці абгрунтавання сваёй апантанасці абапіраюцца акурат на факты «агульнай» гісторыі. У айчынных рэаліях прыходзіцца міжволі канстатаваць, што ў галіне шчыльнага «супрацоўніцтва» з гісторыкамі адэпты заходнерусізму, які наогул варта было б прыраўняць да экстрэмізму або нават сектанцтва, значна апярэджваюць тых, хто спрабуе прадстаўляць грамадскасці нацыяльна-арыентаваны падыход да гістарычнай спадчыны.

Плён дзейнасці імперскіх ідэолагаў, нібы нафтавая пляма, актыўна распаўзаецца па медыя-прасторы, ствараючы адпаведны эфект у масавай свядомасці. Значнасць такіх падзей, як Грунвальдская бітва або бітва пад Оршай, наўмысна змяншаецца, каб увесь прапагандысцкі імпэт скіраваць на перамогу ў Другой сусветнай вайне і далейшай пабудове дзяржаўнасці пад «чулым кіраўніцтвам» з боку «старэйшага брата». Не кажучы ўжо пра тое, што ў Беларусі няма месцаў памяці, дзе чалавек мог бы ўзгадаць пра дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, якія шмат рабілі для таго, каб наша краіна была незалежнай.

Таксама ў Мінску адсутнічае помнік Кастусю Каліноўскаму, прызнанаму на дзяржаўным узроўні яшчэ ў савецкія часы. Няма ў Беларусі манументаў і дзеячам БССР, нацыянал-бальшавікам Змітру Жылуновічу і Аляксандру Чарвякову, якія спрычыніліся да абвяшчэння Савецкай Беларусі, адыгралі выключную ролю ў палітыцы беларусізацыі ў 1920-х. Замест гэтага мы маем мноства помнікаў «сакральнай карове» камуністычнай ідэалогіі — Леніну.

Нягледзячы на тое, што сталічныя кіраўнікі дагэтуль не могуць (хутчэй, не хочуць) усталяваць годны мемарыяльны комплекс у Курапатах або

прынамсі забяспечыць належную ахову дадзенай тэрыторыі, але затое яны ахвотна гатовыя — за велізарны замежны грант, вядома — далучыцца да маштабнага пераўтварэння месца памяці ў вёсцы Малы Трасцянец, дзе нават немагчыма ўсталяваць дакладную колькасць ахвяр (пераважна пахаваных, дарэчы, зусім не там, а побач, на месцы цяперашняга гарадскога сховішча смецця). Апроч таго, у апошнія гады пайшла завядзёнка паўсюдна ўзводзіць помнікі прадстаўнікам рускай праваслаўнай царквы. Прычым на адкрыцці гэтых помнікаў, як правіла, прысутнічаюць і радасна пляскаюць у далоні тыя, хто яшчэ ўчора бавіў час на сходках камсамольскіх актываў, быў непрыхаваным атэістам і актыўным барацьбітам з «рэлігійным цемрашальствам».



*Крапівінскае поле, 8 верасня 2014 года*

Таму не дзіўна, што сёння сэнсавая напоўненасць канцэпту нацыянальнай ідэі па-ранейшаму працягвае боўтацца паміж двума берагамі: ад «мы, беларусы, з братняю Руссю» да «наш народ заўсёды пакутваў ад маскальскага прыгнёту», а становішча з нацыянальна-арыентаванай беларускай элітай трапна акрэслена публіцыстам Сяргеем Дубаўцом: «сем суполак па сем чалавек». Усеабдымны посткаланіяльны цень на гістарычнай свядомасці большасці суайчыннікаў замінае ганарыцца тым, што менавіта нашы продкі былі першапачынальнікамі партызанскага руху, вынаходнікамі шматступеннай ракеты і рэактыўнай авіяцыі, заснавальнікамі магутнага прататыпу Еўрапейскага Саюза ў выглядзе ВКЛ, фундатарамі аднаго з найстарэйшых у свеце запаведнікаў «Белавежская пушча», стваральнікамі сарматызму і супрэматызму ў мастацтве.

Буйнае святкаванне 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашыскіх захопнікаў рэзка кантрастуе з поўнай адсутнасцю цікавасці да 500-годдзя бітвы пад Оршай з боку афіцыйных структур. Яно і зразумела: гэтая дата вельмі «нязручная» для гістарычнага іміджу ўсходняга суседа, які прызвычаіўся з кожнай шчыліны крычаць пра свае вялікія перамогі і адначасова «забываць» пра не менш вялікія паразы. І ў гэтым прасочваецца непрыхаваны і досыць сур'ёзны выклік для нас, беларусаў. Бо пакуль мы будзем з мазахісцкай радасцю працягваць эксплуатаваць вобраз надзвычай памяркоўнага народа, які выжыў у мностве войнаў і выцярпеў шмат гора і пакут, жыць па-сапраўднаму, з годнасцю, воляй і на поўную моц, наша краіна будзе хіба толькі ў папулярным і, што таксама сімвалічна, фактычна забароненым сёння закліку: «Жыве Беларусь!»

*КОРОТКО ОБ АВТОРЕ*

Ирина Михайловна Шумская (лит. псевдоним Ходоренко), род. в 1976 — поэтесса, прозаик, журналист, музыковед, культуролог, переводчик. Пишет на белорусском и русском языках.

Закончила Белорусский экономический университет (экономист-менеджер), аспирантуру Белорусского университета культуры и искусства. Кандидат наук по культурологии (2002), доцент, почетный профессор Международной Академии славянского просвещения.

С 1992 г. публикуется в белорусских журналах и газетах. С 2000 г. член Союза белорусских писателей, с 2011 г. член белорусского ПЕН-центра.

Автор книг поэзии «Лабірынты душы» (1996), «Чорная ружа» (1998), «Танцы на шкле» (1999), «Свядомаграфія» (2012); научных монографий «Музыкальное творчество как социокультурное явление» (2002), «Музыка ў кантэксце беларуска-польскага міжкультурнага ўзаемадзеяння» (2011); научно-популярных изданий «Мечыслаў Карловіч: Забыты беларускі геній» (2013), «Ян Чачот: Руплівы філамат» (2013), «Шедевры нашей старины» (2014).

# КНЯЗІ АСТРОЖСКІЯ І БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

*Анатоль Астапенка,*
*доктар паліталогіі*

У сувязі з вялікай перамогай пад Оршай беларускага войска над маскоўскімі захопнікамі, звычайна згадваецца князь Канстацін Астрожскі, дзякуючы бліскучаму таленту военначальніка якога і стала магчымай перамога. Аднак, не меншую карысць для Беларусі зрабілі і іншыя прадстаўнікі роду Астрожскіх.

Тры постаці, тры князі Астрожскія: Фёдар, Канстанцін Іванавіч і Васіль (Канстанцін) Канстанцінавіч — гэта нашая слаўныя гісторыя, нашая нацыянальная гордасць, гэта трывалы падмурак нацыянальнай беларуская ідэі.

На Украіне гэтыя выдатныя людзі даўно шануюцца як нацыянальныя героі. Існуе нават меркаванне, што менавіта дзякуючы малітвам князёў Астрожскіх шматпакутная Украіна атрымала нарэшце свабоду. На Беларусі ж імя князёў Астрожскіх амальшто не ведамае шырокаму колу людзей. У асяроддзі праваслаўнай Царквы можа і знойдуцца згадкі пра Святога Фёдара (Астрожскага) (год нараджэння неведамы — год смерці 1438), зрэшты, не багата, кароценькая інфармацыя.

Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460—1530) ведамы, перадусім, у асяроддзі беларускай апазіцыі і найперш у звязку з перамогай беларускага войска над маскоўцамі 8 верасня 1514 г.

А Васіля (Канстанціна) Канстанцінавіча Астрожскага (1527—1608) гісторыкі ведаюць як абаронцу праваслаўя і няўрымслівага змагара супраць уніі.

Гэтыя людзі — чэсць і слава Беларусі, гэта нашая гісторыя, падмурак і аснова развіцця нашай краіны і, пэўна што, яе будучыні.

Але ў сведамасці беларускага народу няма месца гэтым людзям, як маюць Мінін і Пажарскі для Расіі, Багдан Хмяльніцкі для Украіны. Уклад жа ў нацыянальную спадчыну Беларусі нашых слаўных князёў Астрожскіх параўнальны, калі не вышэйшы, за расійскага Мініна ці украінскага Багдана.

Усе тры асобы, пра якія ідзецца, маюць дачыненне да гісторыі як Беларусі, так і Украіны, бо ў часы іх дзейнасці (XV—XVI стст.) нашы дзяржавы існавалі як адзіная дзяржава, Вялікае Княства Літоўскае. Аднак карані Астрожскіх знаходзяцца ўсё ж на беларускіх землях і дзейнасць князёў больш датычыць менавіта Беларусі, а не Украіны. Пра дзейнасць князёў Астрожскіх і іх унёсак у беларускую духоўную спадчыну найбольш дэталёва і шчыра напісала Алёна Яскевіч у кнізе «Падзвіжнікі і іх святыні» (Мінск, 2001). Працягваючы яе аналіз і грунтуючыся на іншых крыніцах я б вылучыў тыя адпраўныя моманты, што датычаць іх укладу ў развіццё менавіта беларускай нацыянальнай культуры.

Дзякуючы намаганням украінскіх навукоўцаў і палітыкаў, князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага на Украіне лічаць усё ж нацыянальным героям менавіта беларускай гісторыі. Аднак помнік, які быў устаноўлены ў Астрозе не так даўно, увекавечыў памяць трох Астрожскіх: Фёдара — у манаскай схіме, Канстанціна Іванавіча — з мячом, Васіля (Канстанціна) Канстанцінавіча — з Бібліяй.

* * *

Фёдар Астрожскі быў старэйшым сынам у сям'і роду князёў Астрожскіх. У 1416 годзе, пасля смерці бацькі Данілы, ён становіцца багатым землеўласнікам. Адначасна яму перайшло ў спадчыну права апекі над усімі праваслаўнымі цэрквамі і манастырамі на сваіх землях. Князь Фёдар быў багатым магнатам, вядомым ваяром і аўтарытэтным дыпламатам. Сучаснікі называлі яго «мужам з усіх правадыроў Літвы і Русі, вялікай смеласці і велізарнага аўтарытэту». Ён падтрымліваў Свідрыгайлу ў барацьбе супраць Вітаўта, а ў 1422 годзе ўдзельнічаў у паходзе князя Фёдара Карыбутавіча ў Чэхію на падтрымку гусітаў.

Але нечакана Госпад паклікаў яго да іншай дзейнасці. Ён адмовіўся ад княскай славы і прыняў мніства ў Кіева-Пячорскай лаўры з імем Феадосій. У старажытных царкоўных спевах праслаўляецца яго «пакорнае паслушэнства і маўчальніцтва», а таксама руплівасць на ніве добрых спраў і хрысціянскай любасці. Ужо з канца XV ст. вернікі пачалі шанаваць яго як святога. Нятленныя мошчы святаўлівага Фёдара і цяпер ляжаць у Дальных пячорах Кіева-Пячорскага манастыра побач з іншымі праведнікамі і цудатворцамі.



*Фёдар Астрожскі*

У 2002 годзе Фёдар Астрожскі быўдалучаны да ліку Беларускіх святых. На заказ беларускага праваслаўнага Брацтва Віленскіх Мучанікаў быў намалёваны абраз святаўлівага.

22 мая 2004 году адбылося перанясенне абразу з часцінкамі мошчаў свт. Фёдара Астрожскага з Свята-Пятра-Паўлаўскага сабору г. Мінска ў дамавую капліцу брацкага дома «Кінанія» (пасёлак Кало-

дзішчы, Мінскі раён). Цяпер гэта адзінае месца на Беларусі, дзе на памяць святаўлівага створана дамавая царква і тут мяркуюць пабудаваць на яго чэсць капліцу.

Манаскае старанне святаўлівага Фёдара Астрожскага не выпадковая падзея. Ён працягвае традыцыі манаства на Беларусі, якія маюць тысячагадовую гісторыю і звязаныя з такімі імёнамі як Ефрасіння Полацкая, Кірыла і Лаўрэнцій Тураўскія... Здабыткі ўзнёслай духоўнасці, якія звязаныя з беларускімі праваслаўнымі традыцыямі ніколі не перарываліся, яны існавалі паралельна з маскоўскім праваслаўем і існуюць у наш час. І прыклад Астрожскіх — гэта характэрная рыса беларускага менталітэту і беларускай місіі.

* * *

Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460—1530) быў праўнукам Фёдара Астрожскага. Меў вельмі высокую пасаду — найвышэйшы гетман Вялікага Княства Літоўскага (з 1497 г.), кашталян Віленскі (з 1511 г.), ваявода Трокскі (з 1522 г.).

Аўтарытэт гетмана ў ВКЛ быў такі высокі, што польскі кароль, дарма што князь быў аддадзены праваслаўю, давяраў яму найважнейшыя дзяржаўныя справы, аб чым і сведчыць яго прызначэнне гетманам. У гісторыю князь К.І. Астрожскі ўвайшоў як выдатны ваяўнік. А перамога войска ВКЛ над маскоўскім у бойцы пад Воршай 8 верасня 1514 годзе, якую заслужана лічаць заслугай бліскучага камандавання К.І. Астрожскага, стала векапомнай падзеяй усёй беларускай гісторыі. На жаль, засяродзіўшыся толькі на гэтай бойцы, многія пісьменнікі і гісторыкі не надаюць належнай увагі іншай, не менш значнай для Беларусі, дзейнасці князя. Так у кнізе «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча валцы пад Воршай прысвечаны цэлы артыкул. Пра іншую дзейнасць Канстанціна Астрожскага і пра іншых Астрожскіх там не сказана ні слова.

Паміж тым К.І. Астрожскі паказаў сябе як выдатны дзеяч праваслаўнай асветы, заснаваў шмат праваслаўных храмаў, спрыяў іх развіццю.

Маскоўскія гісторыкі традыцыйна асвятляюць падзеі XVI ст. як змаганне маскоўскага праваслаўнага царства з «лацінствам» Польшчы і Літвы. Аднак мала хто апісвае тыя войны як войны двух праваслаўных дзяржаў — ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы. Нават пазней, калі ВКЛ увайшло ў склад Рэчы Паспалітай, львіную долю войскаў гэтай дзяржавы складалі выхадцы з тэрыторыі сучаснай Беларусі і Украіны — г.зн. былі ці праваслаўнымі, ці каталікамі ўсходняга абраду. Толькі тады, калі гаворка заходзіць пра князёў Астрожскіх «тэндэнцыйнае мысленне» не дазваляе ім выкарыстоўваць традыцыйны «антылацінскі» падход і адзначыць-такі факт існавання праваслаўя ў Беларусі.

Вось як пісаў прафесар Мікалай Кастамараў (1817—1885) у сваёй кнізе «Руская гісторыя ў жыццяпісах яе галоўнейшых дзеячоў» пра князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага:

«Праўнукам Фёдара Астрожскага, вядомага сваёй барацьбой за Русь супраць Польшчы, быў знакаміты Канстанцін Іванавіч, гетман літоўскі, надзейны слуга польскага караля, які быў у палоне ў Івана III, і потым адпомсціў за свой палон пабіццём маскоўскага войска пад Воршай. Варожасць да праваслаўнай Масквы і надзейная служба каралю-католіку не перашкаджалі яму славіцца праваслаўнай набожнасцю. Ён шчодра будаваў і упрыгожваў праваслаўныя храмы, разам з тым адчыняў пры цэрквах школы для дзетакі, такім чынам, заклаў пачатак рускай асветы».



*Канстанцін Іванавіч Астрожскі*

Модныя беларускія гісторыкі сучаснай папуляцыі накшталт пісьменніка Ул. Арлова, адмаўляючы імперскае мысленне ў трактоўцы нашай гісторыі, аўтаматычна адмаўляюць і праваслаўны чыннік у гісторыі нават Полацка-Тураўскага перыяду, не кажучы пра ВКЛ.

Насамрэч не трэба адкідаць гэты чыннік беларускай гісторыі ні на карысць уніі, ні рыма-каталіцызму. На Усходзе Еўропы існавалі дзве праваслаўныя дзяржавы, два сталыя супернікі — ВКЛ і маскоўская дзяржава. І ў нашай гісторыі перыядычна з'яўляліся такія стараннікі і заступнікі праваслаўя як князі Астрожскія.

Шмат якія сучаснікі К.І. Астрожскага адзначаюць ягоную непахісную вернасць праваслаўю. Ён не проста не прымаў ідэі уніі, якая была вельмі моднай у часы яго быцця, а стаў прыкладам адданасці веры продкаў для тых, хто яшчэ хістаўся, ці станавіўся на шлях прозілетызму. Вось адна з вызначальных рысаў беларускага патрыятызму: адданасць свайму народу, яго звычаям, яго спрадвечнай веры — праваслаўю.

Астрожскі рупіўся аб высокім статусе служэбнікаў праваслаўнай царквы, каб яны ні ў чым не папушчалі

каталіцкім святарам. Для такіх мэтаў з яго ініцыятывы быў скліканы Сабор Духавенства ў 1508—1509 гг.

Пасля аршанскай перамогі кароль Жыгімонт I дазволіў князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму пабудаваць каменныя цэрквы ў Вільні — Троіцкую і Нікольскую. Дзякуючы намаганням Астрожскага было цвёрда вызначана юрыдычнае становішча Праваслаўнай Царквы ў ВКЛ, якое да яго было вельмі неакрэсленым. Князь Канстанцін спрыяў матэрыяльнаму забеспячэнню цэркваў, умацаванню рэлігійнага мыслення і падняццю дабрачыннасці праваслаўных хрысціян. Усяго за час дзейнасці Канстанціна Астрожскага Праваслаўная Царква ў ВКЛ атрымала больш за 20 грамат, якія пашыралі і сцвярджалі яе правы.

У 1523 годзе кароль Жыгімонт I на просьбу Астрожскага даў дазвол ігумену Макарыю аднавіць Кіеўскі Міхайлаўскі Залатаверхі манастыр і заснаваць у ім манаскую грамаду. Канстанцін Іванавіч Астрожскі спрыяў адкрыццю ў Вільні ў 1524 г. друкарні, адкуль выйшлі кнігі Францішка Скарыны.

Князь К.І. Астрожскі скончыў свой земны шлях у 1530 годзе і быў пахаваны ў Кіева-Пячэрскім манастыры.

* * *

Трэці з выдатных князёў Астрожскі пра якога належыць сказаць — гэта сын К.І. Астрожскага — Васіль (да хрышчэння Канстанцін) Канстанцінавіч Астрожскі. Заслугі гэтага чалавека перад Беларуссю і нават перад сусветнай гісторыяй такія значныя, што яго імя сапраўды магло б стаць нацыянальным сімвалам Беларусі. Аднак нягледзячы на яго царкоўныя заслугі, адрозна ад свайго прадзеда Феадора ён не кананізаваны царквою. Ён не слыве, як ягоны бацька, ваеннымі ўчынкамі. Але, на мой пагляд, гэтая постаць найвыдатнейшая ў гісторыі Беларусі XVI стагоддзя.

Нарадзіўся Васіль (Канстанцін) Канстанцінавіч у Тураве ў 1526 годзе, які належыў яго маці Аляксандры з роду Слуцкіх. Там ён правёў свае дзіцячыя і юнацкія гады, выхоўваўся ў адданасці праваслаўнай веры і атрымаў добрую дамовую адукацыю.

У звязку з асобай гэтага Астрожскага хачу адзначыць вельмі важны факт, што датычыць яго светагляду: В.К. быў адным з першых, хто наўпрост звязваў веру з нацыянальнымі асаблівасцямі. Пра гэты факт, прыкладам, сведчыць А. Яскевіч у кнізе «Падзьвіжнікі...». Яна піша:

> /князь Васіль/ быў «глыбока перакананым прыхільнікам праваслаўя, які разумеў непарыўную сувязь традыцыйнай хрысціянскай веры з этнічнай самабытнасцю ўсходніх славян».

Яго вера была жывая, князь свята пільнаваўся пастоў, а на Вялікі Пост перад Пасхай адыходзіў у манастыр, дзе праводзіў дні і ночы ў малітвах і набажэнствах.

Дзейнасць В.К. Астрожскага на зломе XVI—XVII стст. была скіраваная на падняцце адукацыі праваслаўнага беларускага люду, на асвету і адраджэнне найлепшых традыцыяў праваслаўнай культуры. Як піша Л. Ляўшун — праваслаўнае адраджэнне, пра якое так аддана рупіўся В.К. Астрожскі, павінна было адлюстраваць «тое нязліўнае адзінства веры і кіраванага ёю розуму, якое было дасягнута Вялікімі каппадакійцамі»*.

Захапленне еўрапейскай вучонасцю, што ішла ў часы Рэфармацыі з Захаду не абышло і ВКЛ. Кальвінізм трывала набіраў моцы на гэтых землях і нам ёсць што ўспомніць з тых часоў імклівага пашырэння пратэстанства з яго нацыянальна-арыентаваным характарам і аблічча м. Такая фігура як Радзівіл Чорны — гэта скарб нацыянальнай беларускай гісторыі.

Нездарма сучасны паслядоўнік таго рамантычнага кальвінізму XVI стагоддзя Лявон Ліпень сцвярджае, што менавіта кальвінізм і ёсць нацыянальная вера беларусаў. Гэтая выснова зроблена не без падстаў. Кальвіністы і антытрынітарыі неслі асвету на Беларусь. Сымон Будны выдаў у 1562 годзе знакаміты «Катэхізіс» на беларускай мове. Шмат чаго зрабіў іншы асветнік Васіль Цяпінскі (1535—1600).



*Васіль (Канстанцін) Канстанцінавіч Астрожскі*

Контррэфармацыя, якую прынеслі каталікі-іезуіты, спалохаўшыся пасля празмерных поспехаў пратэстантаў, была важкым унёскам у бурны працэс адукацыі, асветы і навуковага прагрэсу ў Беларусі XVI стагоддзя. Нездарма гэтае стагоддзе лічыцца «Залатой парой» беларускай культуры.

Дзейнасць езуіцкіх школ і наступ каталіцызму не маглі застацца без увагі Васіля Астрожскага. Напачатку ідэю сумоўя праваслаўных з католікамі ён падтрымаў. Яму падабалася тая вучонасць, што неслі католікі, ці, як тады казалі, «лацінства», бо князя турбавала неадукаванасць беларускага сялянства.

* Благоверный князь Константин-Василий Острожский как зеркало религиозных поисков литвинов // Вестник белорусского экзархата. Альманах. Том 1. Мн., 1996.

